

# ВІЦЕБСКІ РАБОЧЫ

Абласная незалежная масавая газета

Выдаецца з лістапада 1917 г.

Серада, 1 снежня 1993 г.
№ 154 (19289) Цана 15 руб.


## Падзеі. Факты. Каментарыі








## ВА ЎЛАДЗЕ ТЭРПСІХОРЫ

Пяць дзён у нашай абласной сталіцы ўладарыла адна з дзевяці дачок Зеўса — лёгкая і пяшчотная, як павеў ласкавага ветрыку, Тэрпсіхора. Апякунка танцаў, без перабольшання, пранікла ў кожны дом, кожную сям'ю, бо канцэрты VII Міжнароднага фестывалю сучаснай харэаграфіі адбываліся не толькі на сцэне Палаца культуры прафсаюзаў, які, вядома ж, не змог бы ўмясціць усіх жадаючых, а і трансліраваліся па Беларускім тэлебачанні.

Канечне, тым, хто трапіў у глядзельную залу, можна было па-добраму пазайздросціць. Цудоўная музыка, прыгожыя маладыя людзі на сцэне, адухоўленыя і апантаныя, гнуткія і пластычныя, эмацыянальныя і пажадлівыя, плятуць непрадказальныя карункі фантастычнага танца, уцягваючы ў дзейства і гледачоў.

Адразу прызнаюся: не ўсё паказанае на фестывалі зразумела, не кожны твор можна было "расшыфраваць", але эстэтычнае задавальненне, атрыманае ад прагляду, велізарнае. Нездарма людзі купляюць білеты на танец мадэрн. Мастацтва перспектыўнае, неабходна вучыцца разумець яго.

Асноўныя прынцыпы гэтага танца — востры драматызм, увасабленне новых тэм і сюжэтаў арыгінальнымі танцавальна-пластычнымі сродкамі, сінтэз розных пластычных стыляў. Менавіта гэтымі крытэрыямі кіравалася журы, ацэньваючы кожную работу прадстаўленых калектываў. Трэба сказаць, што сёлета ў фестывалі ўдзельнічалі толькі прафесіяналы. І адбор быў вельмі жорсткім. Аб гэтым сведчыць хоць бы той факт, што першае месца ў жанры аднаактавы балет не было прысуджана нікому. Другое месца аддадзена балету "Амадуабуу" на музыку амерыканскага кампазітара Ландры "Fine Fivi" з Таліна. Кіруе калектывам мінулагодні дыпламант фестывалю "Белы сабака" Рэнэ Нымік. А трэцяе месца — балету "Погляды" на музыку Янні П'езала Торгіс, які выканаў тэатр танца "Аура" з Каўнаса (кіраўнік Клод Ен Роулін).

Харэаграфічная мініяцюра "Татэм" на музыку Арцёмава і Чавеса студыі Алены Багдановіч з Масквы стала лепшай у гэтым жанры. Яна ж атрымала і спецыяльны прыз удзельнікаў даследчай лабараторыі за пошук, гармонію і прафесіяналізм. Санкт-Пецярбургскі дзяржаўны акадэмічны тэатр балета "Харэаграфічныя мініяцюры" павёз у паўночную расійскую сталіцу другую прэмію за мініяцюру "Пасьёнэ" (італьянская народная мелодыя, харэограф Дзітмар Зэйферт). А вось трэці прызёр — "Пермскі гарадскі балет Яўгена Панфілава" — выкарыстаў для конкурснай харэаграфічнай мініяцюры "Дуэты колеру туманаў" музыку П.Чайкоўскага. І, як бачыце, не памыліўся.

Спецыяльныя прызы арганізацыйнага камітэта фестывалю былі ўручаны групе паліфанічнага абстракцыянізму "Дэнс коледж" (г. Тальяці) за харэаграфічную мініяцюру "Механіка слёз" на музыку Моцарта (кіраўнік Валерый Жалезнікаў) і школе сучаснага балета Артура Калмакова з Днепрапятроўска за мініяцюру "Білет у рай".

За смелае імкненне ў прастору і час спецыяльны прыз журналістамі прэс-цэнтра аднадушна аддадзены "Балету Генадзя Пясчанава" з Масквы.

Пераможцы і дыпламанты фестывалю атрымалі ўзнагароды і паехалі дадому, пакінуўшы віцяблянам надзею на новыя сустрэчы, на тое, што не скончаны баль...

Т.КУЗЬМІЧ.

На здымках: рытмы фестывалю.

Фота Г.ЖУКАВА.

◆ *ЛІТКУР'ЕР*

### ПАЧАТАК ТРАДЫЦЫІ

26.XI.1930 года нарадзіўся наш слынны зямляк паэт, празаік, драматург Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч.

Яго імем на радзіме ў Оршы названа вуліца, працуе музей, ёсць помнік.

Стаіць помнік Ул. Караткевічу ўжо і ў Віцебску (недароблены, замарожаны ў прамым і пераносным сэнсе слова). Ды ёсць спадзяванні, што наступнай [illegible] ён будзе ўрачыста адкрыты і, нарэшце, у нашым горадзе з'явіцца вуліца яго імя.

У гэты дзень памяць земляка ўшанавалі кветкамі, шчырым словам павагі і любві да яго начальнік аддзела культуры гарвыканкома В.Д.Кібісаў, сакратар абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі паэт Алег Салтук, паэты Давід Сімановіч і Уладзімір Папковіч, акцёр драмтэатра імя Я.Коласа Алесь Лабанок, загадчыца літаратурнай часткі гэтага тэатра Святлана Дашкевіч.

Пачатак традыцыі — дня памяці У.С.Караткевіча зроблен.

(Наш кар.).

### З узнагародай!

За шматгадовую актыўную работу ў будаўніцтве, вялікі ўклад у станаўленне і развіццё Віцебскага будаўнічамантажнага поезда № 715 галоўны інжынер БМП-715 Пататурка Генадзь Іванавіч узнагароджаны Ганаровай граматай абласнога Савета народных дэпутатаў.

За такія ж заслугі Ганаровай граматай выканкома абласнога Савета народных дэпутатаў узнагароджаны наступныя работнікі БМП-715:

Баравік Сцяпан Навумавіч — старшы прараб,

Катушонак Леанід Васільевіч — прараб,

Фаміноў Уладзімір Ягоравіч — муляр,

Шаўчун Пётр Сцяпанавіч — машыніст чыгуначнага крана.

## Экспрэс — інфармацыя

*"Ікарус" будзе сабірацца ў Беларусі. Члены дэлегацыі венгерскіх прамыслоўцаў, якія пабывалі ў нашай рэспубліцы, адзначылі добрую рэпутацыю на рынку сваёй краіны мінскіх трактароў і выказалі пажаданне аб іх далейшай пастаўцы. Дырэктар аўтазавода "Ікарус" Ферэнц Мурарык паведаміў аб намеры арганізаваць зборку венгерскіх аўтобусаў у нашай рэспубліцы.*

**Галоўны рэдактар газеты "Правда" Віктар Ліннік разаслаў рэгіянальным выдавецтвам тэлеграму: "У сувязі з фінансавымі цяжкасцямі выпуск газеты часова прыпынен. Аб даце аднаўлення выпуску будзе паведамлена дадаткова". На гэтым тыдні, магчыма, "Правда" пачне выходзіць.**

*Кошт праезду ў гарадскім грамадскім транспарце, прыгарадных і міжгародніх аўтобусах застанецца на сённяшнім узроўні, прынамсі, да новага года, заявілі ў Дэпартаменце цэн Дзяржэканомплана. Павысяцца цэны толькі на праезд у электрычках.*

**З пачатку года ў Аршанскі гарадскі цэнтр занятасці па пытаннях працаўладкавання звярнуліся 82 выпускнікі сярэдніх школ, 112 — тэхнікумаў, 27 — ВНУ. Без работы сёння ў горадзе 27 маладых тэхнікаў, 53 інжынеры, 20 настаўнікаў, 16 бухгалтараў...**

*Граф Аляксандр Прушынскі, ураджэнец Беларусі, прыехаў з Канады і дабіваецца аднаго — паста прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Граф звярнуўся ў Вярхоўны Савет з прапановамі, як вывесці рэспубліку з крызісу. Па-першае, адправіць урад у адстаўку, а яму даверыць пост прэм'ера. Граф абяцае, што адразу ж будуць вызвалены не толькі ўсе міністры, а і старшыні аблвыканкомаў, гар- і райвыканкомаў. А перад новымі кіраўнікамі ён паставіць задачу падрыхтаваць праграму паляпшэння жыцця народа за два дні. Да рэалізацыі яе прыступяць на працягу тыдня. Вось так.*

**Начальнік аддзела рэгіянальнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю Масквы Віктар Разумноў паведаміў, што ў "нашай" мафіі ў першую чаргу наладжаны сувязі з краінамі былога сацлагера — Польшчай, Венгрыяй, Югаславіяй, а таксама з Германіяй, Аўстрыяй, Турцыяй. Асаблівую трывогу выклікае зараджэнне ў Маскве так званай "кітайскай мафіі"... Супрацоўнікі аддзела сумесна з калегамі з Гомеля раскрылі канал пастаўкі ў Ізраіль для заняцця прастытуцыяй дзяўчат з Расіі, Беларусі і іншых краін СНД.**

*У Германіі, як і 60 гадоў назад, знішчаюцца кнігі. Адразу пасля аб'яднання была аб'яўлена сапраўдная вайна кнігам на тэрыторыі былой ГДР. 80 тысяч тон кніг (лік ужо ідзе на вагу) былі знішчаны.*

**У Малдове ўведзена нацыянальная валюта — лей. Яна будзе адзіным плацежным сродкам на ўсёй тэрыторыі, уключаючы і Прыднястроўе. Курс устаноўлены такі — адзін лей роўны тысячы карбаванцам.**

Па матэрыялах інфармацыйных агенцтваў, замежных і рэспубліканскіх газет.

◆ НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

# Рынку патрэбны спецыялісты

**У Полацку яшчэ адна навінка: адкрыўся факультэт Беларускага камерцыйнага універсітэта кіравання. Яго прытуліў колішні Дом афіцэраў, які не так даўно аддадзены пад грамадзянскія патрэбы. Наш карэспандэнт сустрэўся і меў гутарку з дэканам гэтага факультэта Аляксандрам Васільевічам СЦЕПАНЕНКАМ.**

**— Пайшлі на Беларусі множыцца універсітэты. Як можна здагадвацца, профіль вашага — бізнес, рынак?**

— Гэта так. Цяпер на Беларусі ўжо не адна навучальная ўстанова, дзе рыхтуюць спецыялістаў для рыначнай эканомікі. Наш універсітэт — самая маладая ўстанова з падобных, яна заснавана ў сакавіку гэтага года ў Мінску. Па ацэнках экспертаў ААН, якія цікавіліся, як у нашай дзяржаве ідзе навучанне і наогул падрыхтоўка спецыялістаў для рынку, наш універсітэт адпавядае свайму прызначэнню. У нас працуюць выкладчыкі высокай кваліфікацыі. Міністэрства адукацыі выдала нам у ліку першых ліцэнзію на права навучання з выдачай дакументаў аб адукацыі дзяржаўнага ўзору пры атэстацыі выпускнікоў спецыяльнай дзяржаўнай камісіяй. Мы вельмі хутка скамплектавалі вучэбныя групы па падрыхтоўцы спецыялістаў па кіраванню фірмамі і гандлёва-камерцыйнымі прадпрыемствамі, па эканоміцы і кіраванню знешнеэканамічнай дзейнасцю, цэнаўтварэнню, бухгалтарскаму ўліку, па фінансах і крэдыту, па правазнаўству. І аказалася, што ўсіх не змаглі прыняць, хто хацеў вучыцца. І тады рэктарат прыняў рашэнне адкрыць у гарадах Гродна і Полацку тэрытарыяльныя факультэты. Мы самі пайшлі насустрач нашым будучым навучэнцам у рэгіёнах.

Прадугледжаны групы па падрыхтоўцы да паступлення ў нашу навучальную ўстанову. Думаецца, гэта прывабіць людзей, хто па адукацыі і прафесійнай падрыхтоўцы адчувае сябе не гатовым да такіх спецыфічных дысцыпін, як менеджмент, маркетынг, банкаўская і бухгалтарская справа, фінансы, права. З другога боку, тым, хто мае закончаную вышэйшую адукацыю, мы можам прапанаваць паступіць на факультэт дзелавога адміністравання, атрымаць дыплом па абранай спецыяльнасці і больш за тое — ступень бакалаўра кіравання, эканомікі, права. Магчыма, што ў будучым у Мінску будзе арганізавана і аспірантура.

**— У тэрытарыяльных факультэтаў, напэўна, будзе і нейкая свая спецыфіка?**

— У Полацку будзем рыхтаваць спецыялістаў па эканоміцы і кіраванню знешнегандлёвай дзейнасцю, па фінансах гандлёва-камерцыйнай фірмы, па бухгалтарскаму ўліку ў камерцыйнай дзейнасці. І з улікам спецыфікі рэгіёна разлічваем рыхтаваць менеджэраў-эколагаў.

**— Камерцыя — гэта грошы. З якім кашальком прыходзяць да вас?**

— Увогуле нашым навучэнцам вучоба абыдзецца значна танней, чым у дзяржаўных вышэйшых навучальных установах, дзе апошнім часам практыкуюць плату. За год у нас устаноўлена плата з разліку 150 долараў ЗША па адзінаму курсу Нацыянальнага банка. Гэта пры дзённым і вячэрнім навучанні. Завочнікам плаціць адпаведна — 60 долараў. У падрыхтоўчых групах плата ўсяго 16 — 20 долараў.

Зразумела, гэтых грошай недастаткова, каб акупіць усе затраты універсітэта. Частку выдаткаў кампенсуе спонсарскі фонд развіцця і падтрымкі недзяржаўных навучальных устаноў. Есць спадзяванні, што з гэтага фонду ў далейшым можна будзе нават выплачваць стыпендыі найбольш здольным навучэнцам.

**— Што трэба для паступлення ў ваш універсітэт?**

— Зразумела ж, спачатку веды, а не грошы. Грашовыя разлікі пасля. Жадаючаму вучыцца ў нас трэба прайсці ўступныя выпрабаванні: конкурс атэстатаў, тэстыраванне і гутарку па абранай спецыяльнасці. Шукаць нас у Полацку па вул. Талстога, 9. Званіць: 4-20-53, 4-45-14.

Гутарыў
Г.КІРЫЛАЎ.

◆ ЗВЯРНІЦЕ ЎВАГУ

# Маламаёмныя будуць абаронены?

Цяпер у эканоміцы адной з найбольш вострых праблем з'яўляецца праблема рэальных даходаў насельніцтва. Склалася сур'ёзная напружанасць, выкліканая ў першую чаргу разбалансаванасцю спажывецкага рынку, асабліва харчовага. Заклапочанасць выклікаюць таксама інфляцыйныя тэндэнцыі, якія суправаджаюцца павышэннем рознічных цэн і прыводзяць да падзення спажывецкай здольнасці рубля, да абясцэньвання грашовых даходаў грамадзян. Усё гэта негатыўна адбіваецца на ўзроўні жыцця, асабліва тых слаёў насельніцтва, якія маюць нізкія грашовыя даходы, што ў канчатковым выніку прыводзіць да нарастання сацыяльнай напружанасці ў грамадстве. Гэты працэс прымушае актыўна шукаць шляхі і метады падтрымання жыццёвага ўзроўню беднай часткі насельніцтва.

З мэтай аптымізацыі мер сацыяльнай абароны ў рэспубліцы ўведзена паняцце "рыса беднасці", калі асобны грамадзянін або сям'я пераходзіць з катэгорыі малазабяспечаных у катэгорыю бедных (маламаёмных). Да гэтай катэгорыі адносяцца сем'і або асобныя грамадзяне, якія маюць даходы ніжэй мінімальнага ўзроўню, устаноўленага дзяржавай, за межамі якіх існаванне чалавека лічыцца немагчымым.

Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва, сумесна з зацікаўленымі міністэрствамі і ведамствамі, вызначан, а пастановай Дзяржкампрацы ад 22 верасня 1993 г. № 78 "Аб арганізацыі выяўлення і ўліку маламаёмных грамадзян і аказання ім дапамогі" зацверджан крытэрый аднясення грамадзян да маламаёмных груп насельніцтва. У якасці базавага ўстаноўлен нарматыў у размеры 50 працэнтаў сярэднедушавога мінімальнага спажывецкага бюджэту сям'і з чатырох чалавек за папярэдні квартал. Напрыклад, у другім квартале гэтага года мінімальны спажывецкі бюджэт у красавіку склаў 10593, у маі — 12759, у чэрвені — 18087 рублёў на аднаго чалавека, тады ўзровень даходу, пры якім грамадзяніна можна аднесці да катэгорыі маламаёмных, роўны 6907 рублёў (10593+12759+18087) х 0,5 і ніжэй. У трэцім квартале бягучага года гэты ўзровень устаноўлен у размеры 14912 рублёў у месяц на аднаго чалавека. Гэта велічыня будзе прымяняцца, пачынаючы з кастрычніка бягучага года і па студзень 1994 года, у якасці нарматыву для супастаўлення з фактычным месячным душавым даходам сям'і або асобнага грамадзяніна, атрыманым у трэцім квартале бягучага года. Разам з тым выканкомам мясцовых Саветаў прадастаўлена права карэкціраваць гэты нарматыў, але толькі ў бок яго павелічэння за кошт уласных сродкаў.

Не менш важнай з'яўляецца працэдура ўліку даходаў маламаёмных грамадзян. Выяўленне і ўлік маламаёмных грамадзян будзе ажыццяўляцца метадам заяўлення, запаўнення дэкларацыі аб душавым сумесным даходзе сям'і. Прычым улічваюцца ўсе даходы, атрымліваемыя заяўцелем і яго сям'ёй: бягучыя даходы і даходы, якія маюць нерэгулярны характар.

Для ўдакладнення рэальнага ўзроўню матэрыяльнага дастатку сям'і, грамадзяніна, які запоўніў дэкларацыю, прадугледжана атрыманне інфармацыі аб маёмасным становішчы. Пры гэтым, трэба мець на ўвазе, ёсць маёмасць, аб'ектыўна неабходная для нармальнай жыццядзейнасці сям'і, а ёсць і так званыя прадметы не першай неабходнасці, раскошы. Наяўнасць аўтамабіля, гаража, відэамагнітафона і г.д. нават пры нізкіх даходах сям'і не дазваляе аднесці яе да катэгорыі маламаёмных.

Вырашэнне аб аднясенні грамадзян да маламаёмных груп насельніцтва будзе прынята толькі пасля атрымання фактычных даных аб даходах сям'і, наяўнасці маёмасці, абследаванні жыллёва-бытавых умоў. Канкрэтныя віды і формы дапамогі, яе размеры будуць вызначацца выканкомамі Саветаў народных дэпутатаў. Для рэалізацыі гэтага ў гарравыканкомах створаны спецыяльныя камісіі па выяўленню і ўліку маламаёмных грамадзян і аказанню ім дапамогі.

Грамадзяне, якія думаюць, што ўзровень іх даходаў не перавышае ўстаноўленай "рысы беднасці", павінны звярнуцца ў райвыканкоме па месцы жыхарства ў камісію і запоўніць дэкларацыю (апытальны ліст) аб душавым сумесным даходзе сям'і. Права на атрыманне сацыяльнай дапамогі будзе прадастаўлена маламаёмным грамадзянам на пэўны перыяд часу пасля праверкі іх даходаў і матэрыяльна-бытавых умоў жыцця. Канкрэтны від сацыяльнай дапамогі будзе вызначан камісіяй з улікам магчымасцей, а таксама пажаданняў маламаёмнага грамадзяніна, які звярнуўся за ёй. Гэта можа быць прадастаўленне натуральнай дапамогі ў выглядзе прадметаў першай неабходнасці (прадуктаў харчавання, адзення, абутку, лякарстваў), арганізацыя бясплатнага харчавання, прадастаўленне льгот па аплаце камунальных паслуг, аказанне дапамогі ў набыцці паліва, рамонце жылля і надворных пабудоў, аплата за наведванне дзецьмі дзіцячых дашкольных устаноў і інш.

**Г.ШАЙКО,**
**начальнік аддзела сацыяльнай абароны, узроўню жыцця і прававога забеспячэння ўпраўлення па працы, сацыяльнай абароне і занятасці насельніцтва аблвыканкома.**

Да 50-годдзя вызвалення Беларусі

# НІКОГА НЕ ЗАБЫЦЬ

**Як у Бешанковіцкім раёне рыхтуюцца да 50-годдзя вызвалення Рэспублікі Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў? Аб гэтым нашаму нештатнаму карэспандэнту С.Шаірку расказаў старшыня Бешанковіцкага раённага савета ветэранаў Іван Амбросавіч КОРБАН.**

— Пытанне аб падрыхтоўцы і правядзенні 50-годдзя вызвалення Беларусі і раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў было абмеркавана на пашыраным пасяджэнні пленума раённай ветэранскай арганізацыі. Распрацаваны і прыняты канкрэтныя мерапрыемствы, якія даведзены да ведама ветэранаў вайны і працы.

Многае з намечанага ўжо ажыццяўляецца. Зараз заканчваем удакладняць спісы ўдзельнікаў і інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны, сем'яў загінуўшых ваеннаслужачых, партызан і падпольшчыкаў. Сумесна з раённымі аддзеламі народнай адукацыі і культуры праводзілі агляд-конкурс музеяў і куткоў баявой і працоўнай славы школ і Ульскага ПТВ-3. Пераможцы будуць адзначаны прызамі і прэміямі.

У раёне падрыхтавана і выдадзена кніга "Памяць", якая карыстаецца павышанай увагай людзей.

Намечана актывізаваць работу саветаў ветэранаў, ветэранаў-настаўнікаў сярод вучняў школ і навучэнцаў ПТВ-3 па ваенна-інтэрнацыянальнаму і працоўнаму выхаванню. У лекцыях, гутарках раскрываць каварную задуму гітлераўцаў і іх прыхваснеў па заняволенню народаў Беларусі, паказаць гістарычнае значэнне перамогі над фашысцкай Германіяй, уклад воінаў, партызан і падпольшчыкаў нашай рэспублікі і раёна ў разгром фашызму.

Працягваецца работа па выяўленню і ўвекавечанню загінуўшых у баях за Радзіму воінаў, партызан, падпольшчыкаў, ва ўзорным стане ўтрымліваюцца помнікі, абеліскі, воінскія пахаванні. Прадугледжваецца афарміць памятныя дошкі на тэрыторыі гаспадарак, арганізацый, устаноў з імёнамі загінуўшых у барацьбе з фашызмам.

У нашы планы ўваходзіць перыядычнае абследаванне матэрыяльнага становішча і жыллёвых умоў інвалідаў і ўдзельнікаў вайны, адзінокіх састарэлых і хворых, кантроль за аказаннем усіх ільгот.

У студзені будучага года правядзём раённы злёт удзельнікаў ленінградскай бітвы і блакаднікаў, а ў маі збяром удзельнікаў аперацыі "Баграціён". Афармляем альбом і стэнд "Яны вызвалялі раён і Беларусь".

Будзем хадайнічаць перад райвыканкомам і райспажыўсаюзам аб паляпшэнні гандлёвага абслугоўвання ветэранаў вайны і працы наогул і ў магазіне "Ветэран", а таксама ў аддзеле прамысловых тавараў універмага. Нядаўна правяралі, як лячэбныя ўстановы раёна абслугоўваць ветэранаў вайны і працы.

Сумесна з аддзелам культуры, райсабесам будуць рэгулярна арганізоўвацца вечары-сустрэчы ветэранаў вайны, працы з моладдзю, пройдуць тыдні памяці, фестывалі і конкурсы ваенна-патрыятычнай песні, кніжныя выстаўкі, канферэнцыі, дні міласэрнасці і іншыя мерапрыемствы. Хор ветэранаў будзе выязджаць з канцэртамі ў школы раёна.

Ветэранскія арганізацыі павінны прыняць актыўны ўдзел ва ўрачыстых вечарах, сходах, праводзімых у працоўных калектывах, арганізаваць ушанаванне і віншаванне ўсіх удзельнікаў вайны.

Падрыхтоўка да святкавання 50-годдзя вызвалення Рэспублікі Беларусь і раёна актывізуе ўдзел ветэранскіх арганізацый у выкананні праграмы "Клопат", у грамадска-палітычным жыцці раёна, у барацьбе за выхад Беларусі з крызісу без канфрантацыі пры захаванні сацыяльных гарантый і справядлівасці.



**Больш трынаццаці год працуе Аляксей Антонавіч Маскалёў леснікам у лясніцтве "Рубаўскае" Віцебскага раёна. У яго самая вялікая і аддаленая плошча абходу — 778 гектараў. Сёлета тут пасаджана 3,2 гектара маладога лесу, падрыхтавана пад пасадку яшчэ 5 гектараў. А на дзесяці гектарах ужо расце маладняк, які старанна даглядае Аляксей Антонавіч. Да таго ж ён сёлета нарыхтаваў 350 кубаметраў драўніны.**

**Фота Г. ЖУКАВА.**

# ТАКОЙ БІЯГРАФІЯЙ МОЖНА ГАНАРЫЦЦА

## = БУДАЎНІЧА-МАНТАЖНАМУ ПОЕЗДУ № 715 — 50 ГОД =

## Традыцыі жывуць

Пачалася "біяграфія" нашага БМП у грозны час Вялікай Айчыннай — 1 снежня 1943 года. Менавіта тады ў вызваленым ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў гарпасёлку Лёзна быў створаны 6-ы будаўніча-аднаўленчы ўчастак Заходняй чыгункі, першымі работнікамі якога сталі дзесяткі партызан і мясцовых жыхароў Віцебскай і Смаленскай абласцей. Галоўнай іх задачай было хутчэйшае аднаўленне разбуранай чыгуначнай гаспадаркі і аказанне тым самым пасільнай дапамогі Чырвонай Арміі ў бітве з ворагам. Гэтую задачу яны выконвалі з гонарам.

У ліпені 1944-га ўчастак услед за савецкімі войскамі перамясціўся ў Віцебск і з тае пары дыслацыруецца тут. За мінулыя гады некалькі разоў мяняліся яго афіцыйная назва і падпарадкаванне, але нязменным заставалася адно — імкненне калектыву належным чынам рабіць сваю справу. І трэба сказаць, што, здаўшы ў эксплуатацыю сотні самых разнастайных аб'ектаў, ён унёс прыкметны ўклад у пасляваеннае аднаўленне і развіццё эканомікі вобласці і рэспублікі, дастойна нясе працоўную эстафету і зараз.

Безумоўна, тыя традыцыі, што закладваліся ў цяжкія ваенныя і пасляваенныя часіны, старая загартоўка, стабільнасць калектыву дапамагаюць яму давялі паспяхова пераадольваць і сённяшнія выпрабаванні пераходу на рыначныя адносіны. Самае важнае — у нас ёсць моцнае ядро, выдатныя брыгадзірскія кадры. Гэта людзі, якія адпрацавалі тут па некалькі дзесяткаў год, дасканала ведаюць будаўнічую вытворчасць, умеюць трымаць дадзенае слова, на якіх заўсёды можна спадзявацца і ў сэнсе якасці работ, і ў сэнсе тэрмінаў. Праўда, у гэтым ёсць і пэўны негатыўны момант, бо надзвычай складана нам будзе знайсці хутка адпаведную замену выходзячым на пенсію ветэранам, але гэта ўжо іншая справа, самі ж ветэраны дастойныя толькі шчырай нашай павагі і захаплення іх адданасцю роднаму калектыву.

Ды і як можна не шанаваць, напрыклад, Аляксандра Нічыпаравіча Мінаева, які працуе ў нас 39 год і брыгада якога пабудавала ледзь не ўсе новыя дамы па вуліцах Цітова і Лакаматыўнай? А хіба горш праяўляе сябе брыгада Генадзя Аляксеевіча Блізнёва, за плячыма якога 40 год работы ў БМП? Амаль па столькі ж часу аддалі нашай арганізацыі і брагадзіры Віктар Ігнатавіч Сляднёў і Генадзь Пятровіч Котаў. А колькі ў нас сапраўды першакласных радавых рабочых? Трэба бачыць, як робіць цясляр Уладзімір Сяргеевіч Міхайлоўскі! За працай песні спявае, гэта аб многім гаворыць. Такі ж умелец і цясляр Пётр Дзянісавіч Казімірэнка.

Па праву ганарымся мы і сваім кіраўніцкім корпусам. У першую чаргу хочацца назваць майстроў Віктара Яўгенавіча Пчолкіна і Віктара Гаўрылавіча Шпака, інжынера вытворча-тэхнічнага аддзела Людмілу Міхайлаўну Гусачэнка, прарабаў Леаніда Васільевіча Катушонка і Сцяпана Навумавіча Баравіка. На жаль, тут няма магчымасці пералічыць усіх, хто заслугоўвае ўдзячнага слова ў дзень юбілею — у нас жа амаль трэцяя частка работнікаў аддала БМП па 25—40 год жыцця. І менавіта яны, ветэраны, усяляюць ва ўсіх цвёрдую веру ў тое, што пры ініцыятыўнай, зладжанай, дружнай рабоце калектыў выжыве пры любых абставінах, няхай і так званых рыначных — трэба толькі спадзявацца на ўласныя сілы і працаваць па-сапраўднаму. З гэтай верай, з такім настроем і ўступаем мы ў другое сваё пяцідзесяцігоддзе.

**В.КУНЦЭВІЧ,**
**начальнік БМП-715.**







На здымках: (злева направа і зверху ўніз): прараб Леанід Васільевіч Катушонак, на рахунку якога многія дзесяткі пабудаваных аб'ектаў рознага прызначэння; "вароты" Віцебска — вуліца Кірава, абодва прыгожыя вуглавыя дамы якой узвёў менавіта БМП-715; члены перадавой комплекснай брыгады В.І.Сляднёва — Цімафей Кірылавіч Карпаў, Аляксандр Пятровіч Барсукоў, сам Віктар Ігнатавіч Сляднёў, Анатоль Пятровіч Шчаглоў і Іван Пятровіч Залатніцкі; кіраўнік лепшай брыгады аддзелачнікаў Генадзь Пятровіч Котаў; Варвара Іванаўна Старавойтава (у цэнтры), якая з 1943-га і да выхаду на пенсію ў 1988 годзе адпрацавала ў аддзеле кадраў, ведае ўсё і ўсіх, таму і запрашаюць яе часта намеснік начальніка БМП Юрый Антонавіч Гарашчук і старшы інспектар аддзела кадраў Галіна Аляксандраўна Салавова, калі патрабуецца нешта ўдакладніць з гісторыі арганізацыі; прараб Полацкага ўчастка Сцяпан Навумавіч Баравік; лепшая з полацкіх брыгад, якую ўзначальвае Генадзь Аляксеевіч Блізнёў (унізе ў цэнтры).

Фота Г.ЖУКАВА і Я.КАПУСЦІНА.

## Салідная фірма!

Сярод многіх дзеючых на Віцебскім аддзяленні чыгункі падрадных арганізацый БМП-715 выгадна вызначаецца самім узроўнем вядзення будаўніцтва. Гэта сапраўды салідная фірма, з якой заўсёды можна знайсці паразуменне, якая стварае менш праблем для заказчыка. Нават цяпер, калі паўсюдна пануе бязладдзе, у тым ліку і ў матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні, калектыў яе неяк знаходзіць выйсце са складаных сітуацый і працуе даволі стабільна.

Увогуле гэта і не дзіўна, бо БМП-715 да развалу Саюза ўваходзіла ў сістэму магутнага Міністэрства транспартнага будаўніцтва СССР, дзе ведалі цану парадку, тэхналагічнай дысцыпліне і ўмелі весці справу. Накоплены тады вопыт дае аб сабе знаць і сёння. Праўда, у той час поезд часта адцягвалі для збудавання розных аб'ектаў нават за межамі рэспублікі, затое зараз калектыў у асноўным працуе ў сябе дома. Для чыгуначнікаў вобласці гэта, безумоўна, вельмі станоўчая акалічнасць.

Як вядома, у апошнія сем-восем гадоў мы шмат будуем, асабліва аб'ектаў сацыяльнай сферы. І калі напачатку галоўную стаўку тут вымушаны былі рабіць на ўласныя сілы, на так званы гаспадарчы спосаб, то зараз выручаюць менавіта прафесіянальныя будаўнікі, у тым ліку і з БМП-715. Доля ўзводзімых імі для нас аб'ектаў пастаянна расце. І не дзеля дзяжурнай пахвалы ў дзень юбілею, а аб'ектыўна ацэньваючы справы, я хачу сёння зазначыць, што ў цэлым мы, заказчыкі, задаволены работай БМП-715 і ў сэнсе якасці, і ў сэнсе тэрмінаў будаўніцтва. Да таго ж, што таксама немалаважна, выкананыя ім работы абыходзяцца нам дзешавей, чым бяруць за іх многія іншыя падрадныя арганізацыі. Словам, магу смела паўтарыць: БМП-715 — салідная фірма.

**У.КАБАНАЎ,**
**намеснік начальніка фінансава-эканамічнага аддзела Віцебскага аддзялення чыгункі.**



## ГЭТА — У АКТЫВЕ БМП-715

*За 50 год свайго існавання калектыў пабудаваў:*

*3950 кватэр жылой плошчай амаль 157 тысяч квадратных метраў і інтэрнатаў на 1320 месц;*

*8 дзіцячых садоў-ясляў на 945 месц;*

*3 школы на 1200 месц і вучэбна-вытворчы камбінат на 200 месц;*

*чыгуначную бальніцу, дзве стаматалагічныя паліклінікі ў Віцебску;*

*прафілакторый у Лётцах;*

*Палац культуры і тэхнікі чыгуначнікаў у Віцебску;*

*адміністрацыйны будынак Віцебскага аддзялення чыгункі;*

*27 вакзалаў, у тым ліку буйныя ў Віцебску і Полацку;*

*лакаматыўнае і вагоннае дэпо на станцыі "Віцебск"; рачны порт у Віцебску;*

*скарасны трамвай у Наваполацку і большасць трамвайных пуцей у Віцебску;*

*станцыі "Прамысловая" і "Наваполацк" з пад'язнымі пуцямі да вытворчых аб'яднанняў "Нафтан" і "Палімір";*

*буйныя чыгуначныя лініі Шаркаўшчына — Пагост, Пагост — Міёры, Полава — Шаркаўшчына, 40 кіламетраў пуцей да Смаленскай АЭС і 31 кіламетр другіх пуцей на ўчастку Віцебск—Орша.*

*14 баз сельгастэхнікі са складамі на 68 тысяч тон;*

*удзельнічаў у электрыфікацыі чыгуначных участкаў Орша—Баранавічы, Баранавічы—Брэст, Орша—Краснае, Чарусці—Сергач, здаў шмат іншых аб'ектаў.*



## 37-34-40 СЛУЖБА ЗВАРОТНАЙ СУВЯЗІ
# Гарачы тэлефон

## «Людзей цікавіць і палітыка»

Гэтыя словы некалькі разоў паўтарыла віцяблянка Валянціна Паўлаўна Піражкова. Яна выказала задавальненне тым, што газета "Віцебскі рабочы" дае даволі аб'ёмныя матэрыялы з сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі. Паслухаць прамую трансляцыю па радыё не заўсёды выпадае, а вось ведаць, што вырашылі парламентарыі, якія прапановы выказваліся — многім чытачам цікава. Ухваліла Валянціна Паўлаўна і аператыўную публікацыю выступлення на сесіі старшыні абласнога Савета У.Кулакова. У ім адчуваецца сённяшні пульс жыцця, узнімаюцца праблемы, якія патрабуюць неадкладнага вырашэння.

Не будзем паўтараць тых эпітэтаў, якія выказала наша чытачка ў адрас некаторых народных выбраннікаў.

— Гэты Вярхоўны Савет яўна не здольны вырашыць надзённыя праблемы, — голас у тэлефоннай трубцы гучыць сурова, — але няхай не спадзяюцца "актыўныя" парламентарыі, што мы іх зноў выберам. Народ таксама нечаму навучыўся.

Вось такая размова. Працягам яе стаў тэлефонны званок ад Кірыла Міхайлавіча Крапівіна. Ён слухаў трансляцыю сесіі па радыё, вельмі аргументаваным падалося выступленне кіраўніка Нацыянальнага банка С.Багданкевіча. І просьба да рэдакцыі такая — коратка нагадаць працоўны шлях, адкуль ён прыйшоў на пасаду галоўнага фінансіста.

Выконваем вашу просьбу. С.Багданкевіч нарадзіўся ў 1937 годзе. Скончыў Пінскі вучэбна-крэдытны тэхнікум, а потым Усесаюзны завочны фінансава-эканамічны інстытут у Маскве. Працоўную дзейнасць пачынаў бухгалтарам, потым крэдытным інспектарам. Наступная пасада — кіраўнік Клецкага аддзялення Дзяржбанка, намеснік кіраўніка Мінскай абласной канторы Дзяржбанка, начальнік планава-эканамічнага ўпраўлення рэспубліканскай канторы Дзяржбанка. З 1981-га па 1991-ы — загадчык кафедры грашовага абарачэння і крэдыту Беларускага інстытута народнай гаспадаркі. Адсюль у чэрвені 1991 года прыйшоў на пасаду кіраўніка Нацыянальнага банка рэспублікі.

У Міхаіла Пятровіча Крываносава такая прапанова — друкаваць больш інфармацыі аб палітычных падзеях у іншых краінах. "Поўным ходам ідзе перадвыбарная кампанія ў Расіі. Хутка і мы, перакананы, прыйдзем да выбараў. Трэба набываць нейкі вопыт палітычнай барацьбы".

## Дзе ўзяць паўмільёна?

Аднак часцей за ўсё раздаваліся трывожныя званкі. Людзі выказвалі сваю крыўду, боль, іншы раз проста адчай.

— Ёсць у нашай мове добрае слова — рэформы, — потым ужо прадставілася нядаўні педагог, а цяпер пенсіянерка **Алена Сцяпанаўна Міраненка**. — Але чаму, як толькі іх настойліва пачынаюць рухаць наперад, людзям становіцца амаль невыносна.

І пачаўся маналог пра цэны, тарыфы, пенсіі. Тут можам толькі паспачуваць, якія могуць быць парады.

**Дзмітрый Пракопавіч Пракоп'еў**, інвалід другой групы Вялікай Айчыннай вайны, жыве ва ўласным доме. Для яго ацяплення выкарыстоўвае вадкае паліва. Заглянуў у гарпалівазбыт, пацікавіўся, якая там чарга. А яму з усмешкай адказваюць — чаргі няма, хоць сёння гатовы абслужыць кліента. Калі ж назвалі цану, за галаву ўзяўся. Тона паліва каштуе 120 тысяч рублёў. Хуценька прыкінуў: на сезон 4 тоны, дык гэта ж паўмільёна рублёў, дзе такія сродкі ў пенсіянераў.

Потым успомніў, што як ветэрану і інваліду яму павінна адпускацца паліва са скідкай 50 працэнтаў. Хоць нейкая палёгка. Аднак без лішніх тлумачэнняў пенсіянеру заявілі — ніякіх ільгот няма.

Галоўны інжынер абласнога вытворчага ўпраўлення па паліву аблвыканкома І.М.Мельнікаў на запыт рэдакцыі даў такі адказ. Ёсць палажэнне канцэрна "Белпалівагаз" № 38 ад 6 лістапада 1992 года аб парадку прадастаўлення льгот. Сапраўды, асобая катэгорыя ветэранаў мае права на 50-працэнтную скідку пры выкарыстанні паліва, і пералічана, якога: дроў, брыкету, вугалю, газу звадкаванага і прыроднага... Вадкага паліва ў пераліку няма. Чаму так здарылася — цяжка сказаць.

А тым часам інвалід Дзмітрый Пракопавіч ламае галаву — дзе ўзяць паўмільёна на паліва?

## Са скаргай па крузе

У **Ніны Абрамаўны Бляевай** і дзесятка жыхароў дома № 28 па праспекту Фрунзе ў Віцебску свае праблемы. Звыш года назад пачалі капітальны рамонт дома. Зразумела, якія тут нязручнасці для жыхароў. Але яны ўжо змірыліся, тым больш што фініш зацягнутым работам, спадзяюцца, будзе. Але вось новая навала. Капалі ў двары траншэю, пераблыталі электрычныя кабелі і падключылі дом пад напружанне 380 вольт. У многіх кватэрах выйшлі са строю тэлевізары, халадзільнікі. Звоняць у ЖЭУ-2, каб нейкую камісію прыслалі, вызначылі страты — ды так і не могуць дачакацца. Нешта жыльцы ўжо самі адрамантавалі. Але не вытрымаў узмацняльнік калектыўнай антэны. Тэлевізійны майстар прыходзіў, растлумачыў, што тут работа для электрыка. А ён не з'яўляецца. Да ўсіх бед прыбавілася яшчэ адна — не працуюць тэлевізары.

Ад імя жыхароў 2-й Цірaспальскай вуліцы тэлефанаваў **Валерый Мікалаевіч Багданаў**. Суцэльная цемень на вуліцы. Колькі пісалі і хадзілі ў гарсвятло, гарвыканком. Толькі абяцанні.

Шматгадовую перапіску вядзе М.М.Шалыга, якая пражывае па Клінічнай вуліцы, дом № 11. Яна інвалід, пастаўлена ў 1982 годзе на льготную чаргу на атрыманне жылля. Лічыць, што з той пары чарга павінна падысці.

Да гарадскіх улад і прапанова **Георгія Цімафеевіча Лазарука**. Пасля рэканструкцыі па мосце Блахіна пайшлі толькі трамваі, а маршрутныя аўтобусы знялі. І пасажыры адчуваюць нязручнасць. Праўда, пры сённяшнім дэфіцыце і аўтобусаў, і асабліва паліва адкрываць новыя маршруты цяжка. А можа, пусціць 22-гі маршрут па мосце, каб крыху і цэнтр разгрузіць? Словам, можна паразважаць.

А **Раісе Раманаўне Канстанцінавай** можна толькі паспачуваць. Яна інвалід другой групы, захацела, каб сын быў побач. А ён скончыў ваеннае вучылішча ў Таліне, апошнім часам служыў у Маскве. Адклікнуўся на просьбу маці, звольніўся з арміі. А ў родным горадзе ён чалавек без грамадзянства, не можа атрымаць пашпарт. І на работу нядаўні лейтэнант, кандыдат у майстры спорту ўладкавацца не можа.

Гэту праблему, Раіса Раманаўна, вырашаюць адпаведныя органы. У бліжэйшых нумарах мы друкуем гутарку з начальнікам пашпартнай работы, віз і рэгістрацыі абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў С.М. Панкратавым. Гэты матэрыял падкажа, як вам дзейнічаць.

А.ШЫЛОВІЧ.

На гэтым тыдні ў сераду і чацвер з 17 да 18 гадзін па тэлефоне 37-34-40 вас выслухае аглядальнік па пытаннях работы Саветаў народных дэпутатаў Аляксандр Яўгенавіч БАРАНОЎСКІ.

*Заснавальнік — працоўны калектыў рэдакцыі*

*Галоўны рэдактар У. Р. СКАПА*



210601, ГСП, г. Віцебск, вул. Гогаля, 17





прыёмная рэдактара—37-34-40, намеснік рэдактара—37-06-89, камерцыйны дырэктар—37-33-06, сакратарыят—37-02-11, 37-45-63, аддзел пісьмаў і сувязей з чытачамі—37-30-43, служба навін—37-31-56, аглядальнікі: па пытаннях работы Саветаў народных дэпутатаў—37-01-45, па пытаннях грамадска-палітычнага жыцця—37-31-56, па пытаннях культуры, адукацыі і нацыянальнага адраджэння—37-74-43, па прамыслова-эканамічных пытаннях—37-06-54, па пытаннях сельскага жыцця—37-06-54, па пытаннях маралі і права—37-31-34, па пытаннях ваенна-патрыятычнага выхавання—37-35-44, аддзел ілюстрацыі і афармлення—37-02-11, рэдактар "Рекламного приложения"—37-45-63, бухгалтэрыя—37-03-69, старшы інспектар па аб'явах—37-21-60. Карэспандэнцкія пункты: Орша—2-42-98, Полацк—4-52-47, Глыбокае—2-19-33, Шуміліна—2-12-40.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні неабавязкова адлюстроўваюць пункт гледжання рэдакцыі.

Газета выходзіць па аўторках, серадах, пятніцах і суботах.

Набрана і звярстана МКП «ФАРМАТ». Надрукавана афсетным спосабам у абласной узбуйненай друкарні імя Камінтэрна. Віцебск, Шчарбакова-Набярэжная, 6. Аб'ём — 1 друкаваны аркуш. Фармат А3. Індэкс 63913. Тыраж 23403. Зак. 154.

«ВИТЕБСКИЙ РАБОЧИЙ»— областная независимая массовая газета. На белорусском языке.



*Управление культуры Витебского облисполкома*

*Союз музыкальных деятелей Республики Беларусь*

*Витебское музыкальное общество*

*Витебская областная филармония*

# V Витебский международный музыкальный фестиваль имени И.И.Соллертинского 9 — 14 декабря

ПРОГРАММА КОНЦЕРТОВ

*9 декабря*
зал Витебской филармонии, начало 18-00.
Открытие фестиваля. Концерт учащихся хореографического училища Республики Беларусь.

*10 декабря*
зал Витебского музыкального училища, начало 18-00.
Эмми Хенц-Димонд (фортепиано) Швейцария. В программе произведения композиторов А.Мессиан (Франция), Р.Кельтерборн (Швейцария), А.Онеггер (Франция), Ж.Крамб (США).

*11 декабря*
зал Витебского музыкального училища, начало 16-00.
Ансамбль солистов "Классик-Авангард" г. Минск, солистка засл.арт. России Наталья Герасимова (сопрано). Художественный руководитель Владимир Байдов. В программе произведения композиторов Россини, Телеман, К.Х.Варэн, Ф.Янов-Яновский (Узбекистан), М.Капытман (Израиль).

*12 декабря*
зал Витебского музыкального училища, начало 16-00.
Ансамбль солистов "Классик-Авангард", Эмми Хенц-Димонд (фортепиано). В программе: Л.Яначек (Чехия), Р.Кельтерборн (Швейцария), З.Краузе (Польша), Е.Подгайц (Россия), Ф.Караев (Азербайджан).

*13 — 14 декабря*
музыкальная гостиная, начало 10-00.
Научные чтения "Витебский Ренессанс", начало XX века. А.Кузнецов, С.Хоружий.

*13 декабря*
зал Витебской областной филармонии, начало 18-00.
Московский музыкальный театр "Геликон". Одноактные оперы.
I отделение:
В.А.Моцарт "Аполлон и Гиацинт", Зингшпиль (исполняется на латинском и русском языках).
II отделение:
И.Стравинский "Мавра" (опера-буфф в одном действии).

*14 декабря*
зал Витебской областной филармонии, начало 18-00.
Московский музыкальный театр "Геликон".
I отделение:
К.Дебюсси "Блудный сын" (опера в одном действии, исполняется на французском языке).
II отделение:
П.Хиндемит "Туда и обратно" (музыкальный скетч). Художественный руководитель и главный режиссер Дмитрий Бертман. Музыкальный руководитель и главный дирижер профессор Кирилл Тихонов.

Спонсоры фестиваля:
*группа фирм "Альт-Агро" и "Альто Брок" ЛТД г. Минск, чулочно-трикотажный комбинат имени КИМ, МНПП "Потенциал" г. Витебск, МП "Диалог", фирма "Сузор'е", ТОО "Единство".*

СПРАВКИ ПО ТЕЛЕФОНАМ: 37—06-01, 36-21-03, 37-21-71, 37-64-22.

ПРИНИМАЮТСЯ КОЛЛЕКТИВНЫЕ ЗАЯВКИ, БИЛЕТЫ ПРОДАЮТСЯ В ГОРОДСКОЙ И ФИЛАРМОНИЧЕСКОЙ КАССАХ.







Коллектив витебского областного управления "Охрана" при МВД Республики Беларусь выражает глубокое соболезнование начальнику ФПО Дубовцу Виктору Анатольевичу в связи со смертью отца.

Коллектив Первомайского районного отдела объединения "Охрана" при МВД Республики Беларусь г. Витебска выражает глубокое соболезнование начальнику финансово-планового отдела областного управления объединения "Охрана" при МВД РБ Дубовцу Виктору Анатольевичу в связи со смертью отца.